Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 15 (69) Нядзеля, 29-га Сакавіка 1925 г. м. Вільня. Год II.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС

Выходзіць два разы ў тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная цана на 1 месяц 1 злоты 80 гр.
За граніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Niemiecka, 1 „Hotel Sokołowskiego" pokój № 26. Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр., у тэксьце — 10 гр., на апош. стар. — 5 гр.

## „Улада—вёсцы"!

Пабоі рабкораў ці селькораў, робленыя сялянамі па ўсім абшары ССРР, змушаюць бальшавікоў да новага моцнага лёзунгу.

„Радавая ўлада—весцы"—крычаць вялікімі літарамі апошнія менскія газэты.

І ў „Звезде" за 22 сакавіка выдрукаваны новенькі дэкрэт менскага бальшавіцкага ўраду за 21.III 1925 г. аб высуваньні сялян на адказную савецкую працу.

Прычыны зьяўленьня гэткага дэкрэту вельмі ясныя. Сялянства ня толькі ў Радавай Беларусі, а і ў цэлым ССРР, пачынае віргацца ў адносінах да прадстаўнікоў бальшавіцкае ўлады, якая, трубячы аб тэорыі камунізму, аб яго правядзеньні ў жыцьцё шляхам сусьветнае рэвалюцыі, не перашкаджала ў пэрыяд хатніх войнаў у быўшай Расеі таму, каб працэс пераходу ў рукі сялян зямлі, зусім зразумелы падчас рэвалюцыі, ішоў сваім парадкам.

Але нямілаю робіцца сялянству ўлада бальшавікоў, калі працэс гэты больш-менш закончыўся, разьвіваючыся стыхійна пры рэвалюцыйным бязладзьдзі.

Сялянскі быт прабываў дасюль блізу што някранутым сыстэмай бальшавіцкага ўрадовага апарату. Ад тэндэнцыі бальшавікоў зьбіраць з сялян падаткі натураю можна было сялянству выкручвацца тым ці іншым спосабам, ня выключаючы арыгінальнай пагрозы „забастоўкі": сяляне зьмяншалі пасеўны абшар да велічыні сваіх уласных патрэбаў, пагражаючы галоднаю сьмерцю вялікім местам, ад якіх узамен не маглі нічога адтрымліваць ў постаці эквіваленту за прадукт свае земляробскае працы.

Тэхнічна праца сялян-земляробаў пры бальшавіцкіх парадках зрабілася труднейшаю, бо гарадзкі рынак перастаў даваць сялянству самае прымітыўнае прыладзьдзе для іхняй гаспадаркі.

Ніякага штучнага рэгулятара паміж цэнамі на фабрыкаты і прадукты сельскае гаспадаркі бальшавікі зусім натуральна выдумаць не маглі і каб адсрочыць агіду да іхняе ўлады, нарастаўшую штодня ў гушчах сялянскіх масаў, пачалі крычаць: „Тварам да вёскі!"

Нікога гэты лёзунг не ачмуціў. Штучнасьць партыйнага ,,рабоча-сялянскага" ўрадаваньня была вельмі відочнаю ня толькі для сагнутае ў казіны рог інтэлігэнцыі, абернутай у ,,совработ", а навет і для цёмнага сельскага насяленьня. Прадукцыя земляробаў дасюль на рынку стаіць у бальшавікоў у страшэнна нізкай прапорцыі да фабрычных вытвараў.

Апрача таго ўрадовы апарат дае дзе-ня-дзе гэткія перабоі, дэмаралізацыя маладога пакаленьня расьце гэтак жахоўна, што здаровая сялянская псыхіка адчувае і моцны маральны цяжар, накінены на народную душу фаварытамі рэвалюцыі рознымі камсамольцамі, бязбожнікамі, селькорамі, а часам проста быўшымі гарадавымі ў новай ролі прэзэсаў сельскіх радаў ці камэндантаў чырвонай міліцыі.

Гэтак, напр., нядаўна вельмі менскія газэты пісалі, што ў Бабруйшчыне нейкі бальшавіцкі адміністратар дадумаўся да надта арыгігальнага спосабу знайсьці вінавайцаў у забойствах нованароджаных дзетак, якія там прынялі шырокі характар.

Узяўшы ў памоцніцы сабе вясковую бабу камісар загадаў проста... даіць падазронных дзяўчат. У ніводнай дзяўчыны малака ў грудзёх знойдзена ня было і гэніяльнасць агента бальшавіцкае ўлады аказалася дарэмнаю, паступак-жа яго быў асуджаны партыйнаю прэсаю. Цікава, што ў гэтай прэсе нейкі бабруйскі селькор, ці проста адказны партыйны працаўнік не пастыдаўся выступіць публічна ў абарону спосабу сьледзтва, прыдуманага „ўладаю на мясцох", на што адтрымаў увагу рэдактара, што даіць дзяўчат усё-ж такі нягожа.

Усё гэта і было-б сьмешна для бальшавікоў, каб не выглядала гэтак дзіка ды не падцінала іхняга спакойнага сядзеньня ў крэслах розных канцэлярыяў гэтак званага савецкага апарату.

І вось яны дадумаліся зрабіць цуд: прыцягнуць сялян да гэтага апарату, абяртаючы іх у сваіх чыноўнікаў.

Але тое, што жменя сялян якія, не належаць да пануючай партыі, трапіць у чыноўніцкія рады, нічога ня зьменіць у рэшце земляробскіх масаў і новы бальшавіцкі лёзунг „улада-вёсцы" акажацца такім-жа пустым, як і „тварам да вёскі" (лицом к деревне).

Час лёзунгаў прайшоў і сялянства, патрабуючы замацаваньня на ўласнасьць набытае за рэвалюцыю зямлі, інстынктам чуе ў сабе патрэбу трывалага дэмакратычнага ладу, дзе кіраваць справамі яно магло-б ня з літасьці над ім бальшавіцкае партыі, а па праву, якое яму належыць у земляробскім краі, якім зьяўляецца, як Беларусь, так і ўвесь С.С.Р.Р.

## Палітычны агляд.

Палітыка, як ведама, цесна зьвязана з эканомікай. Эканамічны крызыс у Эўропе, які пачаўся пасьля вайны, зьявіўся рэзультатам палітычных непаразуменьняў між рознымі дзяржавамі. Як вінавайцы вайны між Расеяй і Нямеччынай ў 1914 годзе згулялі галоўную ролю дзьве прычыны, з якіх адна палітычнага, а другая эканамічнага характару. Расея, як ведама, прыняла ў 1913 годзе новую праграму абязброеньня, каторая павінна была быць праведзена ў жыцьцё у працягу колькіх гадоў. І Нямеччына хацела ўцягнуць Расею, як галоўнага саюзьніка Францыі, і пакончыць з ёю раней, чымся яна ўзмацуецца. А пасьля ў 1914 г. канчаўся дзесяцьгадовы срок нямецка-расейскага гандлёвага дагавору, падпісанага у часе японска-расейскай вайны, г. зн. тады, як Расея была ў надта цяжкім палажэньні, якое давала Нямеччыне вялізныя матар'яльныя выгады. Нямеччына зарабляла, дзякуючы гэтаму дагавору, больш як 1 мільярд рублёў у год. Было ясна, што Расея ня згодзіцца ўзнавіць гэткі дагавор. І вось дзеля гэтага 1914 год для Нямеччыны быў самым выгадным, каб пачаць вайну з Расеяй і Францыяй, якая і так была няміпучаю і раней ці пазьней павінна была пачацца. Ведама таксама, што шмат якія дзяржавы, як Португалія, Палудзенна і Паўночна-Амэрыканскія рэспублікі аб'яўлялі вайну Нямеччыне, ня прыймаючы беспасрэднага учасьця ў ёй, а толькі дзеля таго, каб парваць ранейшыя палітычныя і гандлёвыя дагаворы з Нямеччынай, якія лічыліся нявыгаднымі з таго ці іншага боку.

Польшча, як новая дзяржава, ўтварыўшаяся, як адзін з рэзультатаў сусьветнай вайны, наагул ня мела ні з кім ані палітычных, ані гандлёвых дагавораў, без якіх ня можа істнаваць ніякая дзяржава ў сучасных варунках жыцьця. Ведама з якімі натугамі дабіваецца ССРР, каб падпісаць палітычныя і гандлёвыя дагаворы, перачыркнуўшы ўсе старыя дагаворы. Але гэта яму ня надта ўдаецца. І канец мінулага і бягучы год зьяўляюцца пэрыядам сільнага імкненьня эўропэйскіх дзяржаваў да ўстанаўленьня нармальных эканамічных узаемных адносін шляхам падпісаньня новых гандлёвых дагавораў. І Польшча з гэтага боку не зьяўляецца выняткам.

Галоўная маса гандлёвых абаротаў Польшчы падае на найбліжэйшых суседзяў, як Нямеччына, Чэхаславакія і ССРР, з якімі дагэтуль яшчэ дагаворы не падпісаны. Цяпер акурат вядуцца перагаворы з Чэхаславакіяй і Нямеччынай, а з ССРР навет не пачыналіся. Але для Польшчы блага тое, што пачатыя ўжо перагаворы з Нямеччынай, якія павінны былі кончыцца да 1 красавіка, датарнаваліся да самага нявыгаднага палітычнага момэнту, які Нямеччына хоча выкарыстаць гэтак, як калісьці выкарыстала японска-расейскую вайну пры перагаворах з Расеяй. Нямеччына, як ведама, мае ўжо гандлёвы і палітычны дагавор з ССРР, а пасьля нядаўна падпісала часовы дагавор з Англіяй, Францыяй і Бэльгіяй. Да 10 студня г. г. эканамічныя адносіны Нямеччыны з саюзьнікамі, ў тым ліку і з Польшчай, рэгуляваліся вэрсальскім трактатам. Ведама, як Францыя сьпяшалася падпісаць гандлёвы дагавор з Нямэччынай і як апошняя баранніла свае правы і выгады, ведаючы аб сваім значэньні ў гандлёвых адносінах з Францыяй. Лягчэй і хутчэй быў падпісаны дагавор з

працу паміж паасобнымі навуковымі інстытуцыямі. Той кавалак неба, які дадзены рымскай обсэрваторыі мае запоўніць аж дзесяць таўстых томаў.

Над зладжэньнем гэтага паказальніка неба, пакуль што, працуе 18 інстытутаў: 10 у Эўропе, 2 ў Афрыцы, 3 ў Амэрыцы і 3 ў Аўстраліі.

Ініцыятыва аб гэтай вялізарнай працы паўстала першы раз у 1885 годзе ў думцы францускага астранома Мушэра, які, як кіраўнік парыскае обсэрваторыі, на міжнароднай астранамічнай конфэрэнцыі прадставіў свой плян супольнае працы над стварэньнем нябеснага атлясу.

У гэтым астранамічным каталёгу будуць адбіты ўсе зоры аж да 14 ступені велічыні. Лік нябесных целаў, якія істнуючымі цяпер астранамічнымі інструмэнтамі можна фатаграфаваць, дасягае **аднаго мільёна.** Аднак-жа гэтая цыфра зьяўляецца толькі **дробнаю часткаю** сапраўднага ліку зораў сусьвету. Астраномы даказваюць, што ў сусьвеце істнуе **больш як паўтара мільярда зораў.** Гэта больш менш роўна цыфры людзей, які засяляюць зямлю.

---

## Навіны ў тры радкі.

— У Новым Орлеане (Паўночная Амэрыка) стаўкнуліся два цягнікі. 13 чалавек забіта і 7 ранена.

— „Савецкая Беларусь“ (№ 62 за 18.III) піша, што 22.III г. г. ў Менску сьвяткаваўся **15 гадовы юбілей пісьменьніцкае працы біеларускага паэта Алеся Гурло.**

— 25.III а 2 гадз. ўночы паміж Бордо і Парыжам сайшоў з рэйкаў цягнік. Есьць забітыя і раненыя; паміж забітымі адзін сэнатар.

— У Італіі памёр польскі камуністы Юльян Мархлеўскі, якога бальшавікі намячалі ў старшыні польскага савецкага ўраду падчас наступу іх на Варшаву ў 1920 годзе.

— З Рыгі паведамляюць, што толькі ў адным савецкім прадстаўніцтве ў Латвіі працуе 250 чал., а ўва ўсіх іншых пасольствах і консулятах агулам 130 чалавек.

— Варшаўская адвакацкая рада прыняла ў сябры адвакатуры Галену Вевюрскую, якая зьяўляецца першым жанчынай адвакатам у Польшчы.

— На чугунцы Капштадт-Наталь праваліўся мост падчас праезду па ім пасьпешнага цягніка. Апрача чугуначнае службы загінула некалькі пасажыраў, таму што цягнік упаў у раку.

— У Францыі ў шахце Рэбо каля Фэрбаху абарвалася вінда, чым было запёрта ў шахце 80 рабочых. 30 чалавес выцягнена, з якіх 4 ўжо памёрлі. Рэшту лічаць загінуўшымі.

---

# У С.С.Р.Р.

### Хто апрацоўвае душу сялянства ў Радавай Беларусі.

У № 65 (за 22 гэтага сакавіка) менскае „Звезды“, знаходзім гэткі сьпісак камуністых „мобілізованых на заўседную партыйную працу“ ў вёску: **Аршанскі вокруг.** Баран, Грэбенчік, Ліцкі, Рагоўскі. **Мазырскі вокруг.** Саперов, Дзічкоўскі, Зубовіч-Чугаев, Крыпец, Касенюк, Балабанов, Хадасевіч, Матусевіч М.; **Барысаўскі вокруг.** Капаевіч, Русак, Рычков, Булахов; **Бабруйскі вокруг.** Равінскі. **Калінінскі вокруг.** Клішэўскі, Модэль, Красоўскі, Матусов, Барташэвіч. **Полацкі вокруг.** Балтынь, Дубінец, Ліманоўскі, Цэнцыпер, Трандофілов, Пінхасік, Кантаровіч, Щербінін; **Магілёўскі вокруг.** Гінзбург, Кац, Дубіна, Віленстовіч; **Слуцкі вокруг.** Баль, Конокотін, Ізраэліт, Ерменсон, Абагурко, Васьковіч, Каменштэйн, Карпелень, Ліокумовіч. **Віцебскі вокруг.** Белян. **Менскі вокруг.** Дункен, Танхілевіч.

Сьпісак гэты апублікованы ў „Звезде“ за подпісам сэкрэтара цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі А. Крыніцкага.

Судзячы па большасьці вышэйпералічаных прозьвішчаў, бальшавікі скіравалі ў паднявольныя ім беларускія вёскі досіць цікавых „беларусаў“.

Аб „незалежнасьці“ Беларускай *Савецкай* Рэспублікі пасьля гэтага можна гаварыць вельмі лёгка!

### Катастрофа з аэроплянам.

„Роста“ паведамляе: „З Тыфлісу ў Сухум на зьезд радаў вылецелі аэроплянам намесьнік старшыні совнаркому Закаўказьзя сябар ЦИК'у ССРР і Реввоенсовет'у Мясьнікоў, прэзэс закаўкаскае чэкі Саламон Магілеўскі і народны камісар Грузіі Артабэкаў з лятунамі Шмідтам і Сагараджай. Над прадмесьцем Тыфлісу аэроплян загарэўся і ўпаў. Мясьнікоў, Магілеўскі і Артабэкаў загінулі разам з лятунамі“.

Мясьнікоў, у 1918—1919 г.г. з перарывамі быў дыктатарам Беларусі.

### Спачуваньне жалобы польскага консуля.

„Савецкая Беларусь“ (№ 64 за 22. III 1925 г.) піша:

„21-га сакавіка гэнэральны консуль Польскае Рэспублікі ў Менску Ян Карчэўскі наведаўся ў упраўленьне поўнамоцнага народнага камісарыяту заграцічных справаў СССР пры ўрадзе БСРР і выказаў спачуваньне з прычыны канчыны старшыні ЦВК СССР т. Нарыман-Нарыманава“.

---

# ТУТЭЙШАЯ ХРОНІКА.

═ **Канфіскацыя часопісі,** 24-га гэтага сакавіка канфіскованы Камісарам Ураду на м. Вільню чарговы № 3 часопісі студэнтаў-беларусаў „Студэнская Думка“. Рэдактар часопісі пацягнены да судовае адпавядальнасьці.

═ **Падатак за сабак.** Усе жыхары м. Вільні, на аснове пастановы Гарадзкое Рады, зацьверджанае Дэлегатам Ураду, павінны заплаціць у працягу красавіка месяца падатак за 1925 г. За кожнага аднаго сабаку — 10 зл., за кожнага другога сабаку — 20 злотых і за кожнага трэцяга й далей па 30 злотых. На неакуратных платнікаў будзе налічана пеня за прасрочку, а падатак будзе зыскваццца прымусова.

═ **Гурток аматараў пчалярства.** У мітрапалітальнай духоўнай сэмінарыі пад кіраўніцтвам настаўніка сэмінарыі Іванова арганізованы сярод сэмінарыстых гурток аматараў пчалярства. Штотыдзень у вольныя гадзіны адбываюцца лекцыі па пчалярству.

═ **Напад у цягніку.** „Dz. Wil.“ паведамляе, што 25 гэт. сакавіка ўвечары ў ішоўшы са ст. Кена да Вільні таварны цягнік на бягу ўскочылі 3 асобы і патрэбавалі ад ехаўшага цягнікам Гітэльсона грошы, пагражаючы яму ў праціўным выпадку выкінуць яго з цягніка. Калі Гітэльсон адмовіўся, дык нападаўшыя сьцягнулі з яго чорнае зімовае пальто з фокавым каўняром, забраўшы 60 злотых, якія былі ў кішані. Паліцыя пачала сьледзтва.

*Памятайце аб дарагоўлі друку, а дзеля гэтага не шкадуйце грошай на падпіску, каб ня была спынена вам высылка „Грамадзкага Голасу“!*

═ **Справа Сярэбранікава.** 6 красавіка г. г. будзе разглядацца ў судзе справа Сярэбранікава і інш. (у ліку 10 асоб), абвінавачаных па 102 арт. Карн. Кодэксу.

═ **Звальненьне рэзэрвістых ад вайсковай муштры.** Рэзэрвістыя, радзіўшыяся ў 1900 і 1899 г. г. могуць падаваць просьбы аб адсрочках ім вайсковае муштры. Прычынаю адсрочкі можа быць: 1) выпадак сьмерці каго-нібудзь з сям'і, 2) хвароба, якая патрабуе спэцыяльнага лячэньня і 3) неабходнасьць вясьці палявыя работы.

═ **Кары за п'янства.** У лютым месяцы Камісарам Ураду на м. Вільню пацягнены да адказнасьці за зьяўленьне на вуліцах у нецьвярозым стане 223 асобы, якія аштрафованы на агульную суму 5065 злотых.

═ **Алькогольная статыстыка.** Школьны аддзел магістрату апублікаваў гэткія цыфры аб ужываньні алькоголю вучнямі гарадзкіх пачатковых школаў: з 9949 дзяцей 8578 або 85% ведаюць смак алькоголю. 2338 дзяцей былі п'янымі да няпрытомнасьці (2,35 проц.); 239 дзяцей (2,4 проц.) п'юць гарэлку штодня. 9,2 процант. дзяцей п'юць раз на тыдзень і 52 проц. п'юць у вынятковых выпадках. 140 дзяцей (2,2 проц.) самі купляюць гарэлку і 88,9 проц. адтрымліваюць алькогольныя напіткі ад бацькоў.

Саюз дактароў выпрацаваў проект барацьбы з алькоголізмам сярод дзяцей, які зводзіцца да таго, каб падвысіць на 10 грош. цану 1 літра гарэлкі і віна. На сабраныя ад гэтае падвышкі грошы проектуецца арганізаваць лекцыі, карысныя гульні і інш.

---

*Газэту прачытай і перадай суседу!*

*Той, хто умее чытаць, ніколі не палянуйся прачытаць няпісьменнаму!*

---

# УСЯЧЫНА.

### Сіла прадчуцьця.

Аўстрыяцкія дактары й вучоныя мэдыкі зацікавіліся над'звычайным выпадкам, калі адна старая жанчына, „прачытаўшы думкі свайго пляменьніка“, напісала пісьмо, паведамляючы, што загіне ад яго рукі і сапраўды была ім забітая.

Аб гэтай цікавай гісторыі даведаліся з працэсу Рудольфа Гуга—пляменьніка забітай,—засуджанага на 12 гадоў вастрогу за задушэньне свае цёткі доктаркі Гуг-Гэльмут.

У пісьме, пасланым да прыяцелькі за некалькі тыдняў да сьмерці, д-р Гуг-Гэльмут пісала:

„Праводжу свае дні, чакаючы няшчасьця, якое мае быць са мною. Гэтае чаканьне страшэнна прыкрае, таму, што бываюць момэнты, калі бачу „яго“ добра, як падходзіць да мяне і сьціскае мяне за горла“.

Сапраўды сіла прадчуцьця нязвычайная!

---

### Рыначныя цэны ў Вільні.

27 гэт. сакавіка на рынку заўважаліся гэткія цэны: кілё сталовага хлеба 50 грош., белага — 56 грош., чорнага — 36 грош., сьвінога мяса — 1,60-1,70 гр., цяляціны—1 зл.—1,10 грош., сланіны кілё—2,35—2,40 гр.

---

## Паштовая скрынка.

*Кандратовіч Янка.* Грошы адтрыманы.

*Азерскі Міхал.* Далей высылку спыняем, зрабеце падпіску.

*Міронччык Аляксандр, Дулінец Антон, Курыловіч С., Мілеўскі Юльян* — грошы адтрыманы.

*Трудко Мікола* — газэту высылаем.

*Булыга Міхал, Пабудзей Сымон, Сьвершока А., Сінкевіч Антон, Чарняўскі Сьцяпан, Раліцкі Пётра, Пехоскі М., Лайкоўскі Янка, Адамскі Кастусь, Макаль Грыгор, Дубатоўскі Янка* — пробныя №№ высылаем.



Рэдактар-Выдавец **Язэп Салавей**

Друкарня „Lux“, вул. Жэлігоўскага, 1. Тэлеф № 203.